Гродна
№15 (521),
28 ліпеня 2019
www.slowo.grodnensis.by

# Слова Жыцця

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



# У ДУХУ МАЛІТВЫ І АХВЯРЫ

**16 жніўня ўжо ў 27-мы раз вырушыць Экуменічная пешая пілігрымка Беласток – Гродна – Вільнюс. Шлях да Маці Божай Вастрабрамскай пракладзены праз 3 краіны: Польшчу, Беларусь і Літву. За 9 дзён паломнікі пераадолеюць каля 300 кіламетраў. Для кожнага гэта будзе асаблівы час малітвы, засяроджання, духоўнага аднаўлення і радасці ад сустрэчы з Хрыстом і Яго Маці ў Святым Духу.**

● працяг на с. 4




**“Мудрасць сэрца палягае на ўменні спалучаць сузіранне і дзеянне”. Папа Францішак**

# РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

**XVII ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ**

**Лк 11, 1–13**

Калі Езус быў у пэўным месцы і маліўся, і калі перастаў, адзін з вучняў Ягоных сказаў Яму: “Пане, навучы нас маліцца, як і Ян навучыў сваіх вучняў”. Ён сказаў ім: “Калі моліцеся, кажыце: «Ойча, няхай свяціцца імя Тваё, няхай прыйдзе Валадарства Тваё. Хлеба нашага штодзённага дай нам сёння, і адпусці нам грахі нашыя, бо і мы адпускаем кожнаму даўжніку нашаму, і не ўводзь нас у спакусу»”. Затым сказаў ім: “Хтосьці з вас, маючы сябра, пойдзе да яго апоўначы і скажа яму: «Дружа, пазыч мне тры боханы, бо сябар мой з дарогі зайшоў да мяне, а ў мяне няма чаго даць яму». А той знутры скажа яму ў адказ: «Не турбуй мяне, дзверы ўжо замкнёныя, і дзеці мае на ложку са мною. Не магу ўстаць і даць табе». Кажу вам: калі ён не ўстане і не дасць яму з-за таго, што той сябар ягоны, то з-за настойлівасці ягонай устане і дасць яму, колькі патрабуе. І Я вам кажу: прасіце, і будзе дадзена вам; шукайце, і знойдзеце; стукайце, і адчыняць вам. Бо кожны, хто просіць, атрымлівае; і хто шукае, знаходзіць; і хто стукае, таму адчыняць. Калі ў нейкага з вас, бацькі, сын папросіць рыбы, ці той падасць яму замест рыбы змяю? Або, калі папросіць яйка, дасць яму скарпіёна? Калі ж вы, будучы злымі, умееце даваць добрыя дары дзецям вашым, тым больш Нябесны Айцец дасць Святога Духа тым, хто папросіць у Яго”.

## НАВУЧЫЦЦА РАШУЧАЙ МАЛІТВЕ

Выгляд Хрыста, які моліцца, напэўна, пакінуў глыбокі след у сэрцах Яго вучняў, абудзіў жаданне падобнага перажывання адносін з Богам. Сведкі адчулі таямніцу, чысціню, прыгажосць, святасць сувязі Сына з Айцом у Святым Духу, таму звярнуліся да Езуса з просьбай: “Пане, навучы нас маліцца”. Настаўнік з Назарэта ахвотна выканаў яе.

Малітва Панская, якую кожны хрысціянін ведае сёння на памяць, пачынаецца зваротам “Ойча” і просьбай аб асвячэнні імя Стварыцеля. Яна з’яўляецца адарацыяй Усемагутнага, у якой на цэнтральнае месца ўпісана просьба аб прыходзе Божага Валадарства. Разам з яго надыходам набліжаецца канчатковы трыумф над князем цемры. Таму паўстае неабходнасць упэўненай і рашучай малітвы, нават настойлівай. “Прасіце, шукайце, стукайце”, – кажа Пан. Калі ж “не ведаем, аб чым трэба маліцца, сам Дух заступаецца за нас стагнаннямі невымоўнымі” (Рым 8, 26b).

**Ці прагну Святога Духа, пладамі якога з’яўляюцца любоў, радасць, спакой, доўгацярплівасць, спагадлівасць, дабрыня, вернасць, далікатнасць, стрыманасць?**

**Як выглядае мая малітва?**

**XVIII ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ**

**Лк 12, 13–21**

Нехта з натоўпу сказаў Езусу: “Настаўнік, скажы брату майму, каб ён падзяліўся са мною спадчынай”. Але Езус адказаў яму: “Чалавеча, хто паставіў Мяне судзіць або раздзяляць вас?”. Пры гэтым сказаў ім: “Глядзіце, сцеражыцеся ўсялякай прагнасці, бо нават калі хтосьці мае дастатак, жыццё яго не залежыць ад ягонай маёмасці”. І расказаў ім прыпавесць: “У аднаго багатага чалавека добра ўрадзіла поле. І ён разважаў сам-насам: «Што мне рабіць? Няма куды мне сабраць ураджай мой». І сказаў: «Вось што зраблю: паламаю засекі мае і збудую большыя, і збяру туды ўсё збожжа маё і ўсё дабро маё. І скажу душы маёй: душа, шмат дабра ў цябе ляжыць на многія гады. Адпачывай, еш, пі і весяліся». Але Бог сказаў яму: «Неразумны, гэтай жа ноччу забяруць душу тваю ў цябе. Каму ж дастанецца тое, што ты нарыхтаваў?». Так бывае з тым, хто збірае скарбы сабе, а не перад Богам багацее”.

## ЛЕПШ БЫЦЬ, ЧЫМ МЕЦЬ

Той, хто хоць аднойчы аказваўся ў сітуацыі непасрэднай пагрозы жыццю, лепш зразумее пасланне прыпавесці пра багатага чалавека, у якога ўрадзіла поле. Ён ведае, што нават маючы поўны кашалёк, прыгожы дом, любімую працу, любячую сям’ю, геніяльны план на жыццё, можна за хвіліну ўсё страціць. Занадта круты паварот, непрышпіленыя рамні бяспекі...

Чалавек па наказе Бога пакліканы падпарадкоўваць сабе зямлю. Аднак гэта азначае, што павінен выкарыстоўваць яе багацці выключна для таго, каб служылі для падтрымання жыцця, духоўнага развіцця і міжасобасных адносін. Калі хтосьці будуе вялікі дом з намерам паказацца перад людзьмі і ўзвысіць сябе над імі, робіць няправільна – паддаецца эгаізму і ганарыстасці.

Прыведзенай прыпавесцю Езус вучыць чалавека пакоры. Падкрэслівае, што дасягненне вечнага жыцця не залежыць ад таго, колькі маеш, але ад таго, кім з’яўляешся. Адыходзячы ад разважанняў на тэму спадчыны, дае зразумець, што Божае Валадарства не находзіць з гэтага свету і не датычыць матэрыяльных спраў.

**Чым з’яўляюцца для мяне матэрыяльныя багацці?**

**Ці здольны з пакорай прымаць усё, чым адорвае мяне Пан?**

*Кс. Юрый Марціновіч*

**Слова рэдактара**



*Кс. Юрый Марціновіч*

# Шлях аднаўлення

*Яшчэ ёсць шанс, каб спакаваць заплечнік і вырушыць у пешую пілігрымку. Яна дазваляе глыбей дасведчыць уздзеянне Божай ласкі і мацней адчуць адзінства ў супольнасці Касцёла.*

Хвіліны, праведзеныя ў дарозе, з’яўляюцца часам спакою і засяроджання. Нягледзячы на тлум навокал, чалавек мае нагоду пабыць сам-насам з Богам. Прымаючы свае адносіны з Найвышэйшым, ён гатовы адкрыцца на новае пазнанне Усемагутнага. Можа суцішыцца, падумаць над сапраўдным сэнсам жыцця.

Вернік адпраўляецца ў дарогу, каб дабрацца да святога месца як у знешнім сэнсе, так і ва ўнутраным: да святасці ў сабе самім, у сваёй сям’і і яшчэ шырэй – у грамадскім жыцці. Такім чынам падарожжа можа стаць шляхам да духоўнага аднаўлення. Яно распачынаецца ў хвіліну даручэння сябе Святому Духу.

Пілігрымка – гэта таксама выключны час, калі можам шчыра ў чымсьці прызнацца іншай асобе, даверыцца, прытуліцца... Менавіта тады глыбей перажываем пачуццё таго, што ўсе мы адзін для аднаго браты і сёстры. Не мусім хаваць слёз падчас размовы са святаром ці бліжнім пра свае цярпенні, цяжкасці, з якімі змагаемся ў штодзённым жыцці. Пілігрымка адкрывае верніка на надзею, што ён пераадолее сваю трывогу і страх перад невядомым.

Пілігрым нястомна прыкладвае шматлікія намаганні вандравання і шукання. Яго малітва часам уражвае стыхійнасцю просьбаў і падзякі. Кожны з нас пакліканы распазнаць свае асабістыя духоўныя патрэбы і такім чынам знайсці непаўторную дарогу да Найвышэйшага.

Нават Найсвяцейшая Панна Марыя, хоць сярод усіх людзей была бліжэй да Бога, дзень за днём ішла нібыта ў пілігрымцы веры (параўн. Lumen gentium, 58), захоўваючы і разважаючы нястомна ў сваім сэрцы словы, якія скіраваў Ёй Стварыцель і праз святыя пісанні, і праз падзеі з жыцця Яе Сына. Паслухмянасць Богу па прыкладзе Марыі – дар і задача для кожнага верніка.

**Дарагія Чытачы!**

Давайце слухаць Пана ў падзеях штодзённасці, стараючыся разглядзець у іх пасланне Провіду, у братах, асабліва ў найменшых і ўбогіх, а таксама ў тых, каго сустрэнем падчас жыццёвай пілігрымкі... Слухаць Езуса Хрыста і быць паслухмяным Яго голасу – гэта найлепшая дарога. Адзіная, якая вядзе да паўнаты радасці і любові.

## ЖЫЦЬ ЕВАНГЕЛЛЕМ
## ПЕРШЫ СІНОД
### ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



# Камісія па справах спадчыны Гродзенскага Касцёла і сакральнага будаўніцтва

Ахова касцёльных аб’ектаў – абавязак як усёй дыяцэзіі, так і асобных парафій, духоўных і свецкіх асоб. Яна палягае на клопаце пра стан рэлігійных помнікаў, а таксама на абуджэнні грамадскай свядомасці ад іх непаўторнай каштоўнасці.

Прадметам разгляду Камісіі па справах спадчыны Гродзенскага Касцёла і сакральнага будаўніцтва з’яўляюцца рэлігійныя, гістарычныя, патрыятычныя, навуковыя і мастацкія вартасці дыяцэзіі. Сюды адносяцца святыні, іх акружэнне, а таксама могілкі ды іншыя рухомыя і нерухомыя аб’екты, якія служаць рэлігійнаму культу.

Мэта прац Камісіі заключаецца ў тым, каб выпрацаваць адпаведныя нормы паводзін адносна “нямых сведкаў гісторыі”, паколькі набытак Касцёла важны як для хрысціянскай, так і для людской супольнасці ў цэлым. Помнікі маюць істотнае значэнне для культывацыі пачуцця прыгажосці і пераемнасці ў плане чалавечых дасягненняў. Члены Камісіі падкрэсліваюць, што Гродзенскі Касцёл павінен клапаціцца пра лакальную рэлігійную традыцыю і культурную спадчыну, памятаючы аб асаблівасцях выбранага рэгіёна, галоўным чынам аб яго этнічнай, нацыянальнай і рэлігійнай разнастайнасці.

Падчас сінадальных пасяджэнняў звяртаецца ўвага на неабходнасць інвентарызацыі памятных дошак і помнікаў, змешчаных апошнім часам у касцёлах ці побач з імі. Акрамя таго, рэкамендуецца вядзенне парафіяльных хронік. Яны з’яўляюцца багатай гістарычнай базай і могуць стаць каштоўнай кнігай для наступных пакаленняў.

У сувязі з дастасаваннем сакральнага ўбранства да патрабаванняў новых літургічных правіл, неабходна пільнасць, каб па гэтай прычыне не былі пашкоджаны творы мастацтва. Такім чынам, усе плануемыя працы пры культурных аб’ектах патрабуюць заключэння камісіі Дыяцэзіяльнага будаўнічага бюро, а таксама дазволу біскупа і кансерватара помнікаў. Часткова знішчаныя і невыкарыстоўваемыя прадметы касцёльнага мастацтва вырашана перадаць у сховішча дыяцэзіяльнага музея, які паўстае пры пабрыгіцкім кляштары ў Гродне.

Варта, каб Касцёл з вялікай пашанай захоўваў і не абмяжоўваў доступ да рэлігійных помнікаў як да гістарычнай, культурнай, мастацкай спадчыны і сведчання набожнасці вернікаў. Святыні павінны быць адкрыты для наведвальнікаў, аднак ад гасцей чакаецца праяўленне належнай пашаны да святога месца.

Молімся, каб дзякуючы клопату членаў Камісіі і ўсіх неабыякавых дыяцэзіян пра спадчыну Гродзенскага Касцёла нам удалося захаваць ад знішчэння і забыцця багаты набытак продкаў.

*Кс. Юрый Марціновіч*

# Ад атэізму да святасці

***Нягледзячы на поспехі ў навуковай сферы, Эдзіт Штайн пастанавіла ўступіць у кляштар, каб прысвяціць сваё жыццё Богу, якога знайшла пасля доўгіх гадоў пошукаў і бязвер'я...***



**9 жніўня – літургічны ўспамін св. Тэрэзы Бенедыкты ад Крыжа, апякункі Еўропы**

### ІМКНУЦЦА ДА ПРАЎДЫ

Эдзіт Штайн, пазней с. Тэрэза ад Крыжа, нарадзілася ў 1891 годзе ў Вроцлаве (сёння Польшча). Была 11-ым дзіцём глыбока веруючых яўрэяў. У 2 гады страціла тату. З гэтага часу клопат пра вялікую сям'ю поўнасцю лёг на плечы маці, жанчыны мудрай і моцна прывязанай да традыцый свайго народа.

Будучы падлеткам, Эдзіт – незалежная асоба з бліскучым інтэлектам – пакінула веру, у якой была выхавана, бо яна не давала дзяўчыне ўпэўненасці ў Божай апецы. Гэтае рашэнне схіліла яе да яшчэ больш стараннага пошуку праўды. Вывучала філасофію, фенаменалогію, псіхалогію. Працавала над уласнымі



работамі пад наглядам самых вядомых гуманітарных розумаў тых часоў. Рабіла навуковую кар'еру, што для жанчыны тады было даволі рэдкай з'явай.

З-за выбуху I Сусветнай вайны Эдзіт вымушана была спыніць навучанне. Спачуваючы пакутам іншых, накіравалася на фронт. Служыла бліжнім як сястра Чырвонага Крыжа: апекавалася асобамі, што пакутавалі ад інфекцыйных захворванняў. Глыбока перажывала смерць маладых людзей. Пачуццё эмпатыі з часам адкрыла Эдзіт рэлігійны феномен.

Аднак першая, найбольш від авочная сустрэча дзяўчыны з Хрыстом адбылася некалькімі гадамі пазней у цікай атмасферы хатняй бібліятэкі яе блізкіх сяброў. Той пераломны момант будучая святая ўзгадвае з вялікай узрушанасцю: "Я ўзяла першую кнігу, якая трапіла ў рукі. Гэта быў вялікі аўтабіяграфічны том пад назвай «Жыццё святой Тэрэзы Авільскай». Пачала чытаць. Хутка кніга так мяне паглынула, што не магла спыніцца. Калі закрыла том, сказала сабе: вось праўда". За чытаннем Эдзіт правяла ўсю ноч, а раніцай пайшла ў горад, каб купіць катэхізіс і імшалік. Грунтоўна з імі пазнаёмілася і праз некалькі дзён адправілася на першую ў сваім жыцці св. Імшу.

### ДАБРАЦЦА ДА СВЯТЛА

Калі Эдзіт бліжэй сустрэлася з Езусам, вырашыла прыняць хрост. Уласным запалам яна захапіла сваю сястру Ружу. Хоць пераход на іншую веру азначаў разлад у сям'і, якой цяжка было зразумець такое рашэнне, для Эдзіт гэта не азначала разрыву сувязі з яўрэйскім народам. Яна сцвярджала, што менавіта цяпер, калі вярнулася да Бога, па-сапраўднаму адчула сябе яўрэйкай. Усвядоміла, што належыць да Хрыста не толькі духоўна, але і праз крэўныя сувязі.

Паглыбляючыся ў чытанне і рэлігійныя практыкі, дзяўчына займалася педагагічнай дзейнасцю. Аднак цяпер імкнулася спалучаць навуку з верай. Напрыклад, вельмі глыбока даследавала спадчыну св. Тамаша Аквінскага і старалася растлумачыць пэўныя элементы яго містыкі пры дапамозе фенаменалагічнага метаду.

Эдзіт часта запрашалі прачытаць даклад з розных нагод і на канферэнцыях. Яна праводзіла навучальныя курсы, пісала артыкулы, прымала ўдзел у радыёдыскусіях. Усё змянілася, калі да ўлады прыйшоў Гітлер, які забараніў яўрэям займаць любыя грамадскія пасады. Эдзіт вымушана была пакінуць публічнае жыццё.

Ужо больш нічога не трымала яе ў свеце, таму пастанавіла ўступіць у кармэліцкі ордэн у Кёльне (Германія). У якасці апекуноў выбрала сабе св. Тэрэзу Авільскую і св. Яна ад Крыжа, прымаючы ў супольнасці імя Тэрэза ад Крыжа, якое было спалучэннем імёнаў абодвух духоўных аўтарытэтаў.

У клаўзуры сястра жыла пакорна, як і ўсе іншыя. У кляштары нічога не ведалі пра яе славутасць і эрудыцыю. Аднак настаяцелі вырашылі, што манахіня павінна працягваць сваю навуковую дзейнасць. У 1938 годзе ў сувязі з узмацненнем нацысцкага рэжыму с. Тэрэза – усведамляючы, што яе яўрэйскае паходжанне можа быць пагрозай для кляштара – пераехала ў Галандыю.

### "ВІТАЙ, КРЫЖ!"

Праз 4 гады больш-менш бяспечнага манаскага жыцця ў галандскім горадзе Эхт у дзверы мясцовага кляштара пастукаліся з гестапа. У той час с. Тэрэза разам з іншымі сёстрамі малілася ў капліцы. Цягам 5-ці хвілін яна павінна была з'явіцца разам са сваёй сястрой Ружай, каб з іншымі яўрэямі, якія прынялі хрысціянства, накіравацца ў канцлагер. Гэта была помста нацыстаў за пасланне галандскіх каталіцкіх біскупаў, якія пратэставалі супраць праследавання і дэпартацый прадстаўнікоў выбранага народа. Ліст быў прачытаны ва ўсіх святынях краіны.

Апошнія словы с. Тэрэзы, якія пачулі манахіні, былі скіраваны напалоханай Ружы: "Хадзі, пойдзем цярпець за наш народ". У хуткім часе настаяцельніца атрымала ад сястры тэлеграму, дзе тая прасіла пакінуць намаганні па яе вызваленні: "Не можна пазнаць Крыж інакш, як толькі прымаючы яго цяжар. Я была ў гэтым унутрана пераканана і сказала сабе ў глыбіні сэрца: вітай, Крыж, мая адзіная надзея".

Раніцай 7 жніўня 1942 года 987 чалавек транспартавалі ў лагер у Асвенціме. Праз 2 дні с. Тэрэза ад Крыжа разам са сваёй сястрой Ружай і многімі іншымі сынамі і дочкамі яўрэйскага народа былі атручаны ў газавай камеры.

### ПАМЯЦЬ У КАСЦЁЛЕ

Эдзіт Штайн з'яўляецца першай яўрэйкай, якая перайшла ў каталіцызм і была ўзнесена да хвалы алтара. Яе кананізаваў 11 кастрычніка 1998 года папа Ян Павел II. Пантыфік абвясціў святую заступніцай Еўропы з думкай пра яе асаблівую апеку над гэтай часткай свету, а таксама над людзьмі, якія найбольш пацярпелі ў часы II Сусветнай вайны. Гадавіна смерці св. Тэрэзы Бенедыкты ад Крыжа з'яўляецца ў Каталіцкім Касцёле днём малітвы за ахвяр Халакоста.

*Ангеліна Марцішэўская*

**Божа, дзякуем Табе за дары і таленты, якія ўдзяліў сваёй слузе Эдзіт Штайн, сястры Тэрэзе Бенедыкце ад Крыжа. Яе жыццём Ты паказаў, што можам знайсці Цябе сярод абавязкаў і акалічнасцей нашай штодзённасці. Праз яе заступніцтва ўчыні, каб мы маглі служыць Табе і бліжняму так дасканала, як гэта магчыма; каб у пэўны дзень змаглі ўдзельнічаць у хвале і шчасці, якія Ты падрыхтаваў для тых, хто Цябе любіць. Просім аб гэтым праз Хрыста, Пана нашага.** Амэн.

## СЛОВА ДЛЯ ЖЫЦЦЯ

***Папа Францішак***



*Быць здольным спачуваць – гэта ключ. Гэта наш ключ. Калі вы не адчуваеце спачування да патрабуючага чалавека, калі ваша сэрца не ўзрушаецца, то нешта не так. Будзьце ўважлівыя, не трапляйце ў эгаістычную неадчувальнасць... Міласэрнасць да чалавека ў патрэбе – гэта абліча любові. Так мы становімся сапраўднымі вучнямі Езуса і так выяўляецца абліча Айца: "Будзьце міласэрнымі, як і Айцец ваш міласэрны" (Лк 6, 36).*

*Фрагмент прамовы перад малітвай "Анёл Панскі" ў Ватыкане, 14.07.2019*

***Кс. абп Габар Пінтэр***



*Нярэдка сужэнцам, якія шчыра і глыбока шукаюць адказаў на праблемныя пытанні сямейнага жыцця, сённяшні свет прапануе лёгкія і спакуслівыя рашэнні, якія, аднак, ставяць пад пагрозу сапраўдную годнасць чалавечай асобы. Менавіта таму Марыя суправаджае нас, ахінае нашы сем'і ў сучаснасці, якая імкнецца пазбавіць надзеі, прымушае жыць у няпэўнасці, трывозе і цяжкасцях.*

*Дарагія браты і сёстры, трэба разумець, што ідэальных сем'яў не існуе. Мы не мусім баяцца недасканаласцей, ран, канфліктаў. Павінны навучыцца сустракацца з імі тварам у твар і адважна іх вырашаць. Таму сям'я, у якой, нягледзячы на слабасці і грахі, пануе любоў, становіцца школай прабачэння. Як гаворыць папа Францішак, таямніца і цуд трываласці ў шлюбе – гэта не толькі вынік уласных намаганняў, але і ласка любові Хрыста, якая можа ацаліць нашы раны і дапамагчы штодня прабачаць, не згубіцца сярод цяжкасцей жыцця, а стаць сведчаннем адзінства і міру для бліжніх.*

*Фрагмент гаміліі, прамоўленай падчас урачыстасцей у санктуарыі МБ Каралевы Нашых Сем'яў у Тракелях, 13.07.2019*

***Кс. абп Тадэвуш Кандрусевіч***



*Шкаплер, падараваны чалавецтву Марыяй яшчэ ў XIII стагоддзі, з'яўляецца правідэнцыяльным інструментам апекі Маці Божай. Ён актуальны і ў нашы часы, калі адбываецца жорсткая барацьба дабра са злом. Шкаплер – знак таго, што Марыя з намі. Яна прапануе найбольш кароткі шлях да Езуса, у якім наша моц і збаўленне.*

*Практыка шкаплернага культу павінна падтрымлівацца і развівацца. Пры гэтым трэба памятаць, што шкаплер – гэта не амулет, ён не дзейнічае аўтаматычна. Яго неабходна насіць у духу веры і даверу да Марыі і праз Яе – да Езуса. Гэта азначае, што прыхільнікі шкаплера павінны захоўваць Божы закон і прымаць актыўны ўдзел у жыцці Касцёла.*

*Фрагмент гаміліі, прамоўленай падчас урачыстасцей МБ Шкаплернай у Гудагаі, 14.07.2019*




◆ *Папа Францішак сустрэнецца з еўрапейскімі скаўтамі ў рамках форуму “Euromoot-2019”, які праходзіць у Ватыкане. У ім прымаюць удзел каля 5-ці тысяч членаў скаўцкага руху ва ўзросце ад 16-ці да 21-го года. Праграма форуму ўключае прэзентацыю скаўцкай дзейнасці ў ваколіцах Рыма (Італія), дзе можна падзяліцца сваім досведам, распавесці пра асаблівасці скаўцкіх традыцый у розных краінах. Акрамя таго, удзельнікі сустрэчы наведваюць месцы, звязаныя з жыццём вядомых святых, і рыхтуюцца да аўдыенцыі са Святым Айцом.*

◆ *Новым Генеральным магістрам Ордэна братоў прапаведнікаў (дамініканцы) абраны 51-гадовы філіпінец а. Джэрард Францішка Тымонэр III. Гэта першы ў гісторыі настаяцель дамініканцаў з азіяцкага кантынента і 3-ці, які не з'яўляецца еўрапейцам. Айцец вызначаны Генеральным капітулам на 9-гадовы тэрмін. Ордэн братоў прапаведнікаў заснаваны ў 1214 годзе св. Дамінікам Гусманам. На сёння ён налічвае каля 6-ці тысяч манахаў, якія служаць у больш чым 80-ці краінах свету, у тым ліку і ў Беларусі.*

◆ *Джорджтаўнскі ўніверсітэт у ЗША праводзіў даследаванні сярод новапасвечаных святароў. Выявілена, што многія прэзбітэры (40%) пачалі думаць пра святарскае служэнне ў вельмі маладым узросце: ад 5-ці да 13-ці гадоў. Сярод іх 78% – міністранты. Кожны 2-гі прэзбітэр – вучань каталіцкіх школ або іншых навучальных устаноў Касцёла. Як заўважаюць даследчыкі, “гэта іншая серада, якая спрыяе выхаванню святарскіх і манаскіх пакліканняў”.*

◆ *У справаздачы ААН адносна стану харчовай бяспекі і харчавання ў свеце за 2019 год гаворыцца, што колькасць людзей, якія пакутуюць ад голаду, не скарачаецца ўжо 3-ці год запар. 20,5 мільёнаў (1 з 7-мі) дзяцей нараджаюцца з недастатковай вагой. 148,9 мільёнаў ва ўзросце да 5-ці гадоў (21,9%) пакутуюць ад хранічнага недаядання і 49,5 мільёнаў (7,3%) – ад вострага недаядання. Справаздача з'яўляецца часткай маніторынгу прагрэсу ў дасягненні мэты ўстойлівага развіцця, якая заключаецца ў тым, каб “спыніць усе формы голаду і недаядання да 2030 года”.*

◆ *З даных, апублікаваных Нацыянальным цэнтрам сацыяльных даследаванняў, вынікае, што 52% брытанцаў акрэсліці сябе як нерэлігійныя. У 1983 годзе іх было 31%. У той жа час група асоб, якія называюць сябе хрысціянамі, скарацілася з 66% да 38%. Аўтары даследавання прыйшлі да выніку, што павелічэнне секулярызацыі ў Вялікабрытаніі з'яўляецца “адным з найважнейшых трэндаў у пасляваеннай гісторыі краіны”. На іх думку, прычынай таго, што Вялікабрытанія становіцца свецкай, з'яўляецца прыход на месца старэйшых асоб, звязаных з хрысціянскімі канфесіямі, маладых, з кожным разам усё менш рэлігійных або цалкам няверуючых.*

*vaticannews.by; credo.pro; niedziela.pl*

# У духу малітвы і ахвяры

***Чым пілігрымка Беласток – Гродна – Вільнюс адрозніваецца ад іншых? Чаму варта зрабіць высілак і вырушыць у дарогу да Маці Божай Міласэрнасці ў Вострую Браму? На гэтыя і іншыя пытанні адказвае кс. д-р Лукаш Жук, кіраўнік экуменічнага паломніцтва.***

● *працяг са с. 1*

***– Кс. Лукаш, чым адметная сёлетняя пілігрымка Беласток – Гродна – Вільнюс?***

– У гэтым годзе мы вырашылі трохі змяніць трасу, каб падчас пілігрымавання мець магчымасць зайсці ў санктуарый Эўхарыстычнага цуду ў Сакулцы. Гэта асаблівае месца: у 2008 годзе там адбыўся эўхарыстычны цуд. Хочам тварам у твар сустрэцца з Езусам, які даў пазнаць сябе ў белым кавалку хлеба.

***– Пад якім дэвізам адпраўляецеся ў дарогу?***

– Лейтматывам пілігрымкі мы выбралі словы “У моцы Духа”, таму што яны выдатна ўпісваюцца ў сёлетнюю душпастырскую праграму для Касцёла ў Польшчы. Пілігрымаў дэвіз павінен заахвочваць да разважання над таямніцай Святога Духа, Яго роляй у супольнасці вернікаў і ў жыцці кожнага хрысціяніна.



***– Што з'яўляецца галоўнай матывацыяй для людзей, якія прагнуць удзельнічаць менавіта ў гэтай пілігрымцы?***

– Кожная дыяцэзія ў Польшчы арганізоўвае свае пілігрымкі ў мясцовыя санктуарыі, сярод якіх асаблівай папулярнасцю карыстаецца Ясная Гара ў Чанстахове. Наша пілігрымка ў Вострую Браму аб'ядноўвае шматлікіх вернікаў з розных тэрыторый Польшчы, а таксама з-за мяжы. Да паломнікаў, якія вырушаюць з Беластока, далучаецца група з Гродна, дзякуючы якой пілігрымка набывае непаўторны характар.

Ідучы праз Беларусь, мы заўсёды атрымліваем нязвыклы дар сведчання веры і любові да іншага чалавека. Людзі, якіх сустракаем, часта вельмі простыя, вылучаюцца неймаверным унутраным багаццем. Адчуваем вялікую зычлівасць жыхароў, якія адкрываюць перад намі дзверы сваіх дамоў на начлег, а таксама тых людзей, якія з вялікай сардэчнасцю вітаюць на трасе. Мы, арганізатары, разам з пілігрымамі таксама прагнем пакінуць пасля сябе нейкі след. Спачатку пытаем у парафіях, якія існуюць патрэбы, а потым стараемся іх рэалізаваць, ахвяруючы літургічныя прадметы і іншыя рэчы.

Ганаруся тым, што кожны ўдзельнік паломніцтва ўсведамляе, што ў сённяшнім свеце патрэбна вялікая маніфестацыя веры. Мы павінны выходзіць на вуліцы і паказваць, Каму належым, дзе нашы карані. Павінны гаварыць пра Хрыста не толькі ў сваіх дамах і сем'ях, але і дэманстраваць свету, што здольны накіроўвацца за Богам.

***– З якімі інтэнцыямі вернікі вырушаюць у дарогу?***

– Інтэнцыі разнастайныя. Калі казаць пра агульныя намеры, то мы найперш молімся за кожную нацыянальнасць, за людзей, з якімі сутыкаемся падчас паломніцтва, молімся таксама аб супакоі, адзінстве, моцы і сіле. Акрамя таго, кожны мае свае прыватныя інтэнцыі. Любім паўтараць, што усе нясём з сабой багаж – за плечнік свайго жыцця, у якім спакаваны ўласныя просьбы. Забіраем іх таксама з нашых сем'яў, асяроддзяў. Нясём да ног Маці Божай Вастрабрамскай інтэнцыі, якія атрымліваем ад людзей у дарозе.

***– Памятаеце сваё першае паломніцтва ў Вострую Браму?***

– Канешне! Гэта стала для мяне вялікім выпрабаваннем. Я ніколі раней не вандраваў у Вострую Браму, таму не мог нават уявіць, як усё гэта выглядае. Вельмі добра памятаю свой першы досвед як кіраўніка пілігрымкі. У той час мяне захлынула зычлівасць і дабрыня людзей, ксяндзоў і пробашчаў, якія сустракалі нас у парафіях. Сёлета ўжо ў 7-мы раз паведу паломніцтва. Вядома, як і заўсёды, існуюць пэўныя страхі, але я ведаю: нягледзячы на розныя арганізацыйныя цяжкасці, у выніку ўсё атрымаецца.

***– Часта аб'яднаўчым элементам у пілігрымцы з'яўляюцца незвычайныя падзеі. Можа, якія-небудзь з іх Вы памятаеце?***

– Ёсць мноства такіх момантаў, не ўдасца пералічыць іх усе. Але, напэўна, варта ўзгадаць юбілейную 25-ую пілігрымку, калі мы ўзнагароджвалі свецкіх асоб і пробашчаў, якія ў асаблівай ступені адзначыліся падчас арганізацыі. Уручалі адмысловыя адзнакі 3-ом паломніцам, якія прымалі ўдзел у гэтай рэлігійнай вандроўцы з самага пачатку. Некалькі гадоў таму адбылася яшчэ адна асаблівая падзея. Пілігрымы неслі рэлікварый бл. Міхала Сапоцькі, які пазней быў урачыста ўнесены ў парафію ў Яшунах на Віленшчыне. Кранальным момантам было, калі на прыпынках збіраліся



людзі, каб памаліцца ля рэлквій.

У гэтым годзе нас чакае чарговая незвычайная падзея. 24 жніўня, на ўваход паломнікаў у капліцу Маці Божай Вастрабрамскай, будзе адпраўлена ўрачыстая св. Імша, спалучаная з сакрамантам сужэнства. 2 гады таму двое маладых людзей пазнаёміліся ў нашай пілігрымцы. Пазней яны заручыліся і вырашылі, што калі Пан Бог паставіў іх на паломніцкі шлях, хочуць гэты шлях прайсці як нарачоныя, а ў канцы ўзяць шлюб.

***– Існуе меркаванне, што агульная колькасць пілігрымаў памяншаецца, што паломніцтвы ўжо не прыцягваюць так моцна. Як Вы лічыце, пілігрымаванне мае будучыню?***

– У цяперашніх часы дастаткова складана з упэўненасцю сказаць “так”. Тое, што пілігрымкі ўжо не такія ж масавыя, як некалі, відавочны факт. Аднак калі людзі, гатовыя да некалькідзённага вандравання, надалей будуць даваць добрыя сведчанні сваім прыкладам, то пілігрымаванне мае перспектывы. З уласнага досведу ведаю, што ў межах заахвочвання да пілігрымавання можна даваць інтэрв'ю ў розныя СМІ, развешваць плакаты, але найлепшай рэкламай ёсць і будзе, у першую чаргу, жывое слова і сведчанне.

***– Што атрымлівае вернік падчас пілігрымавання?***

– Пешая пілігрымка – гэта, як усе мы добра ведаем, рэкалекцыі ў дарозе, а таму духоўна інтэнсіўны час. Гэта таксама спыненне ў бегу штодзённасці, нагода, каб задумацца над уласным жыццём, сабой, сваёй верай, магчымасць засяродзіцца на ўнутраным стане, заняцца тым, на што не хапае часу ў будзённай мітусні. Гэта шанс пазнаёміцца з цікавымі месцамі, людзьмі. Няма, напэўна, такой асобы, якая, аднойчы паспрабаваўшы, потым шкадавала б, што вырушыла ў паломніцкі шлях. Таму сардэчна запрашаю ўсіх далучыцца да нас. Да сустрэчы на паломніцкім шляху!

*Кінга Красіцкая*

**Удзельнікі пілігрымкі Беласток – Гродна – Вільнюс прыбудуць у горад над Нёманам 18 жніўня. Тут да іх далучацца мясцовыя вернікі.**

**Запісацца ў пілігрымку можна непасрэдна ў дзень яе адпраўлення з Гродна, 19 жніўня, перад св. Імшой а 7-ай гадзіне раніцы ці пасля яе ў касцёле Адшукання Святога Крыжа (пабернардынскі).**

**Тым, у каго няма візы, неабходна папярэдне звярнуцца да каардынатара паломніцтва з беларускага боку кс. Паўла Безляповіча да 1 жніўня па тэлефоне: (8 029) 266-77-03.**



# Моцныя ў сакраманце сужэнства

***Падчас сёлетніх урачыстасцей у Дыяцэзіяльным санктуарыі Маці Божай Каралевы Нашых Сем'яў у Тракелях каля сотні сужэнстваў нанова склалі прысягу жыць у любові, вернасці і сумленнасці да самай смерці. Ініцыятарам аднаўлення сужэнскіх абяцанняў выступіў кусташ санктуарыя кс. Юрый Бяганскі. Нагодай для гэтага стала жаданне падкрэсліць у Год сям'і, які перажываем у Касцёле ў Беларусі, важнасць заступніцтва Маці Божай.***





### РАЗАМ У ШТОДЗЁННАСЦІ, РАЗАМ У ВЕЧНАСЦІ

Ва ўрачыстай цырымоніі, якую ўзначаліў дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі, сярод іншых удзельнічала сям'я Мікалаевых – Валерый і Вольга. Перад абрадам сужэнцы разам з дочкамі Ленай, Палінай і Ганнай далі публічнае сведчанне веры. ***"Гэтае сведчанне з'яўляецца галоўным знакам прысутнасці Марыі ў нашым жыцці,*** – адзначае спадарыня Вольга. – ***На пачатку свайго духоўнага шляху я ўвогуле не разумела культу Маці Божай. Памятаю, як прасіла Бога дапамагчы ставіцца да Марыі так, як хоча Ён. І Езус прывёў мяне да Яе. А цяпер Марыя нястомна накіроўвае мяне да Хрыста".***

Аказалася, Маці Божая чувала над парай ад яе нараджэння. ***"Пазнаёмілася я з будучым мужам на вуліцы. Не адмовіла, калі ён папрасіў нумар тэлефону, аднак калі запрасіў на спатканне, адказалася, таму што быў час Вялікага посту. Прапанавала пайсці са мной на Песні жальбы ў касцёл... І ён не спужаўся,*** – распавядае з усмешкай жанчына. – ***Той жа ноччу Валеру прыснілася Маці Божая, якая стаяла ў прамянях і асвячала яго святлом. Муж успрыняў гэта як знак, што я прызначана яму звыш. Праз 4 месяцы мы ўзялі шлюб".***



Сужэнства Мікалаевых шчаслівае разам ужо 20 гадоў і за гэты час выпрацавала асабістую духоўную праграму: па пятніцах – пост, кожную нядзелю і святы – св. Імша, штомесяц – споведзь. Акрамя таго, кожны вечар сям'я практыкуе супольную ружанцовую малітву ў адпаведнай атмасферы: пры абразе і свечках. ***"Калі муж кудысьці ад'язджае, а я застаюся дома, мы молімся разам па тэлефоне,*** – дадае жанчына. – ***Я заўважаю, як праз практыку сямейнага Ружанца мы сталі бліжэй адзін да аднаго, адносіны напоўніліся спакоем і глыбокім даверам. Калі ўзнікаюць крыўды, з малітвай яны паступова адыходзяць у нябыт".***

### "ВОСЬ СПАДЧЫНА АД ГОСПАДА: ДЗЕЦІ..." (ПС 127, 3)

Прыгажосць хрысціянскіх каштоўнасцей спадарства Валерый і Вольга імкнуцца перадаваць сваім дзецям. Вучаць davяраць Богу як любячаму Айцу і верыць, што з Ім можна прайсці праз любыя цяжкасці.

***"Заўважаю моцную прагу Бога ў старэйшай дачкі Лены, якая знаходзіцца ў найбольш свядомым узросце. Цяпер, прабываючы дома на канікулах, яна амаль штодня імчыць на Імшу а 8-ай гадзіне раніцы. Мяне гэта крыху здзіўляе, бо, колькі памятаю, ранні пад'ёмы даваліся ёй вельмі цяжка,*** – усміхаецца жанчына. – ***А нядаўна ўвогуле абвясціла, што паедзе на місіі ў Перу".***

Пра місіі дзяўчына думала яшчэ з 15-гадовага ўзросту. З запалам распавядае пра магчымасць здзейсніць даўнюю мару: ***"Еду на 3 тыдні ў адзін з самых бедных рэгіёнаў краіны, літаральна ў трушчобы. Вырушаю з групай у складзе 18-ці чалавек на чале з манахінямі. Там падзелімся паводле тыпу валанцёрскай дзейнасці: хтосьці будзе наведваць хворых у шпіталі, хтосьці – дапамагаць бяздомным або арганізоўваць вольны час у доме састарэлых. Я б хацела папрацаваць з дзецьмі. На маю думку, колькі любові і радасці атрымаеш у дзяцінстве, настолькі лёгка табе будзе ўпарадкаваць дарослае жыццё. Я вырасла ў шчаслівай сям'і, у Божай любові і хачу дзяліцца тым, чым была адорана. У Перу дзеці жывуць у складаных умовах. Часта ім не хапае пяшчоты, здараецца, іх выкарыстоўваюць як працоўную сілу... Пастараюся падарыць ім крыху цяпла, а ўзамен, мяркую, навучуся адкрывацца на таго, хто побач. Зразумела, мы будзем праводзіць і евангелізацыйную дзейнасць: завітваць у дамы, размаўляць з людзьмі, абвяшчаць Хрыста. Вялікай адвагі не трэба – у Перу любяць місіянераў. Наша задача, хутчэй, заключаецца ў тым, каб паглыбляць веру людзей. Я прайшла паўгадавую падрыхтоўку перад выездам: рэкалекцыі, сведчанні, лекцыі, урокі іспанскай мовы – таму еду не з пустой галавой".***

Спадарыня Вольга штодня дзякуе Богу за тое, што атрымалася пабудаваць сям'ю, заснаваную на веры, і што кожны яе член паволі ўсталёўвае асабістыя адносіны з Госпадам.

### ВЫШЭЙШЫЯ ПРАЯВЫ БОЖАЙ ПРЫСУТНАСЦІ

Спадарыня Вольга не атрымала прыкладу веры з уласнай сям'і і прызнаецца, што часам нават пагарджала веруючымі. Аднак разам з тым адчувала, што ёй чагосьці моцна не стае... Сваё навяртанне жанчына называе адным са шматлікіх цудаў, якія здарыліся ў яе жыцці.

***"Дар веры я атрымала знянацку. Аднойчы паехала на хутар да бабулі. У яе хаце вісеў абраз Сэрца Езуса. Памятаю, як выпадкова зірнула на яго... і ўбачыла аблічча дэмана. Адразу адвярнулася, але затым асцярожна зірнула яшчэ раз і ўбачыла ўжо постаць Хрыста,*** – узрушана распавядае жанчына. – ***Я была ашаломлена і напалохана, але разам з тым задумалася: калі ёсць д'ябал, павінен быць і Бог. І толькі ад мяне залежыць, на якім баку стану я".***

Другім значным цудам спадарыня Вольга называе навяртанне сваёй маці. Жанчына моцна перажывала нявер'е матулі і, звярнуўшыся за парадай да святара, пачула, што трэба даверыцца Маці Божай і ахвяраваць хаця б адну "Вітай, Марыя" ў дзень у патрэбнай інтэнцыі.

***"Пэўным разам у нашай сям'і здарылася трагедыя: мама атруцілася грыбамі і ўпала ў кому. Стан быў вельмі крытычны. Аналізы паказвалі, што яна ўжо не апрытомнее. Я паклікала ксяндза, каб удзяліў маме сакрамант намашчэння хворых. Разам з тым моцна хвалявалася, ці дастаткова будзе гэтага для збаўлення душы,*** – узгадвае жанчына. – ***Нечакана маці выйшла з комы. Яна прыступіла да споведзі, прыняла св. Камунію. Думаю, моц сакраманту і палягала ў тым, каб «абудзіць» маму і дазволіць ёй паспець паяднацца з Богам. Праз некалькі дзён, у свята Маці Божай Ружанцовай, матуля адышла ў жыццё вечнае".***

Спадарыня Вольга ўпэўнена: штодзённасць поўніцца цудамі. Часам нават не шматгадзінныя прашэнні, літаніі і песні праслаўлення, а кароткая малітва, выказаная з поўнай адданасцю, можа здзейсніць неверагоднае.

### БОГ ЁСЦЬ ГАРМОНІЯ

З якімі б цяжкасцямі не сутыкалася сям'я Мікалаевых, яна ніколі не мае пачуцця безнадзейнасці, трагічнасці сітуацыі. ***"Мы нібыта «запраграмаваны» на тое, што з Богам справімся з любымі праблемамі. З Ім усё атрымаецца,*** – дзеліцца спадарыня Вольга. – ***Калі ў адносінах узнікае напружанне, для мяне гэта з'яўляецца сігналам, што адышла ад Бога. Пра блізкасць да Усявышняга сведчаць, перш за ўсё, гарманічныя стасункі з людзьмі навокал".***





З вышыні сваіх гадоў і досведу сямейнага жыцця спадарыня Вольга адзначае, што вельмі важна маліцца аб добрым сужэнцы. ***"Трэба старацца жыць згодна з Божымі запаведзямі, звяртацца да Усявышняга, і Ён абавязкова падкажа, хто павінен быць побач з табой,*** – гаворыць жанчына. – ***На жаль, моладзь сёння шмат губляе, паддаючыся нячыстасці. Патанаючы ў гэтым граху можа страціць галоўнае – здольнасць любіць...".***

Аднаўленне сужэнскіх абяцанняў стала для сям'і Мікалаевых магчымасцю ўмацавацца ў пакліканні, нагадаць сабе, што сужэнства – гэта вялікая таямніца, усталяваная Госпадам. ***"Мы ўсе толькі стараемся жыць як хрысціяне, але гэта не заўсёды атрымліваецца. Я веру, што кожны падобны абрад, кожная малітва ці любая іншая духоўная практыка прыцягвае Божую ласку ў жыццё чалавека",*** – падсумоўвае спадарыня Вольга.

*Ангеліна Марцішэўская*




### Князь нябеснага войска

***У Мядзелі развіталіся з фігурай св. Міхала Арханёла, якая завяршыла перэгрынацыю па Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі.***

*Урачыстую св. Імшу з гэтай нагоды ўзначаліў кс. Юрый Жэгарын – пробашч парафіі св. Міхала Арханёла ў Навагрудку. Ён прыняў фігуру апекуна Касцёла ў Беларусі, каб распачаць яе перэгрынацыю ў Гродзенскай дыяцэзіі.*

*Скульптура прывезена з санктуарыя ў Гаргане (Італія), самага знакамітага месца аб'яўленняў св. Міхала Арханёла. Там знаходзіцца адзіная святыня, якая не асвечана рукою чалавека, бо гэта зрабіў сам арханёл.*




### Нечаканае адкрыццё

***Даследчыкі Базельскага ўніверсітэта (Швейцарыя) знайшлі ў сваіх архівах старэйшы ў свеце ліст хрысціяніна.***

*Улады навучальнай установы высветлілі, што, згодна з новымі даследаваннямі, папірус, які доўгі час знаходзіўся ў іх распараджэнні, можа датавацца 230 годам пасля нараджэння Хрыста. Такім чынам, ён як мінімум на 40 гадоў старэйшы за вядомыя сёння хрысціянскія лісты.*

*У папірусе, напісаным на старажытнагрэчаскай мове, чалавек па імені Арыан піша свайму брату Паўлу аб паўсядзённых сямейных справах. Эксперты старажытнасці лічаць, што абодва мужчыны былі маладымі, адукаванымі сынамі мясцовай эліты. Арыан жадае свайму брату, каб яму ўсё ўдавалася "ў Пану". Акрамя таго, ён просіць перадаць прывітанне маці.*




### Праваслаўныя чэмпіёны

***Сёлетнія трыумфатары турніру Вялікага шлема ва Уімблдоне (Вялікабрытанія) з'яўляюцца глыбока веруючымі вызнаўцамі праваслаўя.***

*Сімона Халеп, пераможца адзіночнай жаночай гульні, належыць да Румынскай Праваслаўнай Царквы. Яна ўдастоена румынскага Крыжа Патрыярхіі, самай высокай узнагароды для свецкіх, а таксама Крыжа св. Андрэя.*

*Пераможца Уімблдона ў мужчынскім адзіночным тэнісным туры 32-гадовы Новак Джокавіч з'яўляецца членам Сербскай Праваслаўнай Царквы. Ён узнагароджаны Ордэнам св. Савы першага класа за тое, што актыўна падтрымлівае многія рэлігійныя і сацыяльныя ініцыятывы сваёй Царквы.*



## Ці можна адмаўляцца ад лекаў з-за веры ў Бога?

*Часам хворы чалавек не згаджаецца на лячэнне, а спадзяецца толькі на веру, што мае аздараўленчую моц. “Калі я прыпаду да Цябе ўсёй маёй істотай, знікне боль і смутак, і сапраўдным будзе жыццё маё, цалкам напоўненае Табой” (св. Аўгусцін, Споведзь, 10, 28, 39). Аднак Біблія не ўсхваляе паводзіны людзей, якія ігнаруюць медыцынскую дапамогу па рэлігійных матывах. Аздараўленне верай не можа супрацьпастаўляцца прафесійнай медыцыне. У Святым Пісанні ясна гаворыцца: “Дай месца лекару, бо і яго стварыў Пан, і няхай не аддаляецца ад цябе, бо ён патрэбны” (Сір 38, 12–13). Езус таксама прызнаваў, што “не здаровым патрэбны лекар, а хворым” (Мц 9, 12). Біблія заахвочвае чалавека клапаціцца пра сябе і берагчы здароўе.*

*Бог чакае ад людзей паслухмянасці. Як мы можам выказаць яе? Перадусім праз выкананне запаведзей, якія Бог даў свайму народу. Адна з іх, а дакладней 5-ая, сцвярджае: “Не забівай!”.*

*На першы погляд можа здацца, што гэтая запаведзь мае агульнага з адмаўленнем ад ужывання лекаў альбо з адмовай ад лячэння? Слова “забойства” азначае не толькі тое, што чалавек у прамым сэнсе можа пазбавіць іншага чалавека жыцця. Мы ведаем, што ўскоснае забойства – гэта таксама парада зрабіць аборт, эўтаназія, самагубства, наўмыснае атручванне цяжка і невылечна хворых для палягчэння іх цялесных пакут, пакіданне без дапамогі параненага, п’янства, наркаманія, лячэнне ў экстрасэнсаў і “бабак”, адмова ад даступнага лячэння.*

*Не згадзіцца на лячэнне лекамі – якраз і ёсць адмова ад даступнага лячэння. Некаторыя робяць гэта легкадумна, спадзеючыся на тое, што “можа, само пройдзе”. Такім людзям трэба прыгадаць, што здароўе – каштоўны Божы дар, які дапамагае годна служыць Богу ды бліжнім, і да яго трэба адносіцца з павагай. Некаторыя адмаўляюцца ад лячэння, жадаючы хутчэй памерці. Гэта грэх самагубства. Бог даў нам жыццё, даў крыж, і мы павінны несці яго да таго часу, пакуль Ён сам не пакліча нас да сябе. Людзі, якія свядома адмаўляюцца ад лячэння, выбіраючы шлях павольнага самагубства, здзяйсняюць цяжкі грэх. Правільна будзе звяртацца з малітвай да Бога і дзейнічаць у супрацоўніцтве з чалавекам (урачамі, фармацэўтамі, навукоўцамі).*

*Памятайма, што апрача несмяротнай душы чалавек мае таксама і цела. Медыцына ў гэтым кантэксце ўспрымаецца як карысная дзейнасць для падтрымання добрага стану здароўя людзей. Яна не павінна супярэчыць рэлігійным перакананням асобы, таму што духоўнае жыццё – гэта злучэнне зямнога і нябеснага існавання чалавека.*

*Кс. Аляксей Ляшко*
***Паводле catholicnews.by***



*З Богам праз штодзённасць*

# Малітва любячай увагі. Заканчэнне

У двух апошніх артыкулах мы даволі пільна прыглядаліся да рахунку сумлення. Пачалі з яго класічнай формы, разабралі прагляд дня і малітву любячай увагі, іх адметнасці і этапы. Засталося зрабіць яшчэ адзін крок, а менавіта адступіць крыху назад, каб павялічыць шырыню агляду.

У Божую прысутнасць я прыходжу як рэальны чалавек, а не выдуманы герой, які ўсё робіць на выдатна ды яшчэ з дня ў дзень удасканальваецца. Што сёння будзе маёй шчырасцю ў адносінах са Створцам і Збаўцам? Плынь слоў і думак ці маўчанне? Усмешка ці схаваны ў далонях твар? А можа, увогуле адмаўленне ад актыўнага пазнання сябе і простае прабыванне пад позіркам Бога, які бязмежна і безумоўна любіць мяне?

Жывая малітва багатая мноствам адценняў і варыяцый. Цікавым назіраннем дзеліцца а. Уільям Ламберт SJ, які шмат увагі ў сваіх кнігах прысвячае рахунку сумлення: “Многія сужэнствы адкрылі для сябе, што апавядаць адно аднаму аб пражытым дні – добры спосаб зрабіць прагляд дня і адначасова ўмацаваць адносіны з партнёрам. Я ўражаны звычаем адной пары, з якой асабіста знаёмы. З-за напружанага працоўнага графіка сняданак – адзіны час, калі яны могуць пабыць сам-насам. На працягу гэтай каштоўнай паўгадзіны муж і жонка размаўляюць толькі пра сябе і пра тое, што датычыцца іх абодвух. Калі штосьці іншае прасочваецца ў размову сужэнцаў, яны задумваюцца, ці ўсё добра ў іх адносінах”.

А ці не прасочваецца ў нашу малітву ацэньванне (і нават абясцэньванне) іншых людзей, зацыкленасць выключна на сваіх поглядах і памкненнях, схільнасць да наракання больш, чым да падзякі? Сцісла кажучы, ці ўсведамляем мы тады, з Кім размаўляем? Нездарма а. Ламберт згадвае сужэнцаў. Бог праз святых і прарокаў карыстаецца катэгорыямі сужэнства, каб паказаць чалавеку, да якіх адносін з Ім трэба імкнуцца. Праз прарока Осію так кажа Пан: "Я заручуся з табою навекі; заручуся з табою ў справядлівасці і правасуддзі, у міласці і міласэрнасці. Заручуся з табою ў вернасці, і ты пазнаеш Пана” (Ос 2, 21–22).

Бог прагне быць для чалавека той Асобай, размовы з якой будуць нязмушанымі і сардэчнымі, як у доме, дзе пануе шчырасць і згода. Бог прагне быць Тым, каго не будуць ігнараваць, але слухаць, задаваць пытанні, каму будуць распавядаць нават нязначныя дробязі, дзяліцца трывогамі і радасцямі. Ён жадае сапраўдных жывых адносін, а не захавання дыстанцыі.

А. Ламберт перакананы, што, “як і ў сям’і, глыбіня і любоў прычыняцца да фарміравання ў нас асабістага стылю малітвы, адпаведнага стану нашага жыцця і веры, стылю разнастайнага і звычайнага, як сама штодзённасць. Сэнс у тым, каб падыходзіць да свайго жыцця, як да мастацкага твора, які паступова нараджаецца ў сутыкненні спантаннасці і звычкі, выпадковасці і дысцыпліны, карыстаючыся дапамогай пастаяннай, падсвядомай і засяроджанай увагі”. Такі творчы падыход дапамагае знайсці свой уласны спосаб заканчэння дня ці малітоўнага перапынку падчас абеду ці шпацыру. Магчыма, некаторыя яго падказкі будуць карысныя чытачам у той ці іншы перыяд жыцця.

**Ці падчас малітвы павольна, у рытме дыхання, молімся “Ойча наш”;**

**ці ствараем асабісты псалом;**

**ці дазваляем дню, як фільму, разгарнуцца перад нашымі вачыма;**

**ці ператвараем якую-небудзь асобную сітуацыю ў слайд, які можна выкарыстаць у “медытацыі над вобразам”;**

**ці спрабуем суцішыцца, бо адчуваем, што шум і паспех заглушаюць голас унутранага свету;**

**ці дазваляем святлу сённяшняга чытання Евангелля праліцца на ўзлёты і падзенні гэтага дня;**

**ці перажываем наноў нейкае здарэнне, каб дзень не скончыўся раптоўным тармажэннем, але запавольваннем тэмпу і адпачынкам;**

**ці імкнёмся заўважыць, як духоўная атмасфера ранішняй медытацыі амаль нячутна, але адчувальна насычала атмасферу ўсяго дня;**

**ці, як параход, “выпускаем пар” з надзеяй, што ён узнімецца высока ў неба, як дым кадзіла;**

**ці нагадваем сабе, што “патрэбна толькі адно”;**

**ці ўглядаемся ў постаць святога, якога ўспамінаем у гэты дзень, і стараемся “заразіцца” ад яго “вірусам” любові;**

**ці складаем спіс падзяк;**

**ці звінаем абрысы дня ў “залатой думцы” альбо вершы;**

**ці спісваем чарговую старонку свайго дзённіка;**

**ці вымаўляем любімую малітву;**

**ці спрабуем свядома прыняць нейкую цяжкую сітуацыю;**

**ці аналізуем чарговы раз важную здагадку, прасвятленне, дадзенае нам сёння;**

**ці проста чакаем моўчкі;**

**ці ўнутрана канфрантуем з газетнымі навінамі або асабістым лістом, які нас узрушыў;**

**ці стараемся быць прысутнымі без слоў у чуйнай паставе цела;**

**ці рыхтуемся да споведзі альбо духоўнай размовы;**

**ці ўспамінаем важныя моманты апошніх рэкалекцый, якія не хацелася б страціць у штодзённай заклапочанасці;**

**ці разважаем пра свае адзнакі і задаём сабе пытанне, як здалі экзамены па чалавечнасці і хрысціянстве;**

**ці стараемся прадумаць хрысціянскую стратэгію паводзін з людзьмі;**

**ці падыходзім да кагосьці пасля гарачай сваркі і спрабуем пачаць усё спачатку...**

Кожны пералічаны вышэй пункт можа стаць спосабам малітвы любячай увагі, аналізу, разважання над жыццём, прагляду дня.

*Тэрэса Клімовіч*



# Надзвычайнае побач

**Па дадзеных этнографаў, у Беларусі каля 200 цудадзейных крыніц. Вада з іх лічыцца гаючай не толькі для цела, але і для духу. Яе надзяляюць здольнасцю пазбаўляць ад самых розных хвароб. У гэтым спісе знаходзіцца і крыніца св. Якуба ў вёсцы Тракелі, што на Астравеччыне.**

Мясцовыя жыхары чэрпалі гаючую ваду з крыніцы св. Якуба здаўна. Ды і само месца мае даўнюю гісторыю. ***“У 1820 годзе каля крыніцы, якая славілася сваёй жыватворнай вадой, была пабудавана капліца,*** – распавядае Казімір Варановіч, старшыня касцёльнага камітэта парафіі Дайлідкі. ***– Штогод 25 ліпеня, ва ўспамін святога, там ладзіліся фэсты. Такая традыцыя існавала да 1939 года, а пасля наступілі атэістычныя часы. Спачатку была знішчана каплічка, затым падчас правядзення меліярацыі засыпалі месца, адкуль біла гаючая вада. Дарэчы, механізатар, які па загадзе ўлад разбураў крынічную студню, у хуткім часе скончыў жыццё самагубствам...”.***

Аднак, нягледзячы на страшныя часы, мясцовыя людзі захавалі сваю веру і пачалі паступова аднаўляць святое месца. Парафіяне Франц і Ядзвіга Матыяшкойці разам са сваімі дзецьмі расчысцілі месца, з якога біла крыніца. Дзякуючы намаганням тагачаснага старшыні касцёльнага камітэта Міхала Матыяшкойця з’явілася крынічная студня.

У 2012 годзе парафіянка Ядзвіга Сабюн адшукала ў Віленскім гістарычным архіве звесткі, якія пацвердзілі старадаўнюю гісторыю крыніцы св. Якуба і гаючую ўласцівасць яе вады. З гэтымі дакументамі вернікі звярнуліся ў Астравецкі райвыканкам, а таксама да кс. б-па Аляксандра Кашкевіча, каб атрымаць дазвол на аднаўленне фэстаў 25 ліпеня ва ўспамін св. Якуба. Цяпер штогод, як і ў даўнія часы, на гэтым месцы адпраўляецца ўрачыстая св. Імша.

***“Вада з нашай крыніцы дапамагае пры хваробах вачэй, скуры, суставаў і іншых нядугах. Гэтую ваду вязуць таксама хворым на анкалогію ў Бараўляны”,*** – гаворыць спадар Казімір. Мужчына падкрэслівае, што вернікаў парафіі цешыць той факт, што пра “дапаможную” крынічку ведаюць далёка за межамі вёскі. Дарога да гэтага святога месца не зарастае.

**У людзей часта фарміруецца няправільнае ўяўленне пра тое, што такое святая вада і як яе неабходна ўжываць. Калі мы верым, што святыя крыніцы – гэта тыя месцы, дзе Божая ласка даецца патрабуючаму, то павінны разумець, што Усявышні, перш за ўсё, жадае нашага духоўнага ацалення. Не трэба легкадумна спадзявацца на цуд, што святая вада вырашыць усе праблемы. Незвычайныя перамены магчымыя толькі там, дзе душа падрыхтавана для прыняцця Божай ласкі (пра гэта гаворыць удзел у св. Імшах, прыняцце сакрамантаў). Цуды здараюцца з тымі, хто прыходзіць да святой крыніцы з малітвай і адкрытым сэрцам.**

*Кінга Красіцкая*

НАВІНЫ



## ФЭСТЫ Ў САНКТУАРЫЯХ ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ

Традыцыйна ў ліпені з удзелам шматлікіх пілігрымаў з краіны і з-за мяжы ў Тракелях (дэканат Радунь) і Гудагаі (дэканат Астравец) адбываюцца штогадовыя марыйныя ўрачыстасці.

У санктуарыі Маці Божай Каралевы Нашых Сем'яў у Тракелях сёлетні фэст праходзіў пад дэвізам "Марыя, атулі нашы сем'і". Урачыстасць супала з юбілеем 210-годдзя пабудовы мясцовай парафіяльнай святыні, 25-годдзя абвяшчэння яе дыяцэзіяльным санктуарыем і 10-ай гадавінай каранацыі цудатворнага абраза Маці Божай Тракельскай. Галоўную св. Імшу ўзначаліў Апостальскі нунцый у Беларусі кс. абп Габар Пінтэр. Іерарх заахвоціў прысутных прыглядзецца да 3-ох пастаў Маці Божай: "Марыя, якая слухае, Марыя, якая крочыць, Марыя, якая сустракае" – і да іх перайманне.

На ўрачыстасцях у гонар Маці Божай Шкаплернай у Гудагаі таксама ўзгадалі шэраг важных у гісторыі гэтага святога месца дат: 255-годдзе кансэкрацыі гудагайскай святыні, 10-годдзе асвячэння Кальварыі, 5-годдзе абвяшчэння мясцовага касцёла дыяцэзіяльным санктуарыем. З падзякай Марыі за 30 гадоў свайго пастырства на фэст прыбыў Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі кс. абп Тадэвуш Кандрусевіч. Ён стаў першым пасля перыяду савецкага пераследу веры прызначаным біскупам на тэрыторыі сучаснай Беларусі.

### ПІЛІГРЫМКІ



У санктуарый Маці Божай Каралевы Нашых Сем'яў у Тракелях на сёлетнія ўрачыстасці ў пешых пілігрымках прыбыло каля 2-юх тысяч вернікаў. Ужо на працягу некалькіх гадоў самай шматлікай з'яўляецца група паломнікаў з Іўя, за ёю – вернікі з Гродна і Ваўкавыска, якія пераадолелі 5 дзён шляху. 4 дні крочылі пілігрымы з Ашмянаў, 3 дні – з Навагрудка. Таксама шмат людзей прыйшлі на ўрачыстасці ў пешых паломніцтвах з Ліды, Воранава і іншых мясцовасцей Гродзеншчыны.

У 10-ты раз у санктуарый Маці Божай Шкаплернай у Гудагаі прыбыла веласіпедная пілігрымка з Нарачы (Мінска-Магілёўская архідыяцэзія). За 2 дні сямёра велапілігрымаў пераадолелі шлях больш за 80 кіламетраў.

### ВЫШЭЙШАЯ ДУХОЎНАЯ СЕМІНАРЫЯ



У гродзенскай семінарыі адбыліся рэкалекцыі для хлопцаў. Духоўныя практыкаванні праходзілі пад дэвізам "Будзьце адважнымі, гэта Я; не бойцеся!" (Мц 14, 27). Больш за 40 хлопцаў з розных парафій дыяцэзіі прынялі ўдзел у супольных малітвах, разважанні Святога Пісання. Яны перажылі хвіліны цішыні і рэфлексіі над жыццёвым шляхам, а таксама пашырылі веды аб праўдах веры.



### АДНЫМ РАДКОМ

• У Навумавічах каля Гродна адзначылі чарговую гадавіну мучаніцкай смерці бл. Мар'яны Бярнацкай, святароў і жыхароў Гродна і Ліпска, расстраляных гітлераўцамі падчас ІІ Сусветнай вайны. • Духоўныя практыкаванні на тэму "Усё вырашае сэрца" адбыліся ў парафіі св. Казіміра ва Усялюбе (дэканат Навагрудак). • Пілігрымы з Літвы наведалі біскупа Гродзенскага Аляксандра Кашкевіча. • Маладзёны з Ліды прынялі ўдзел у Міжнароднай сустрэчы піярскай моладзі ў Славакіі. • У лясной капліцы ў Дубку (дэканат Смаргонь) ушанавалі Маці Божую Курганскую. • Удзельнікі 5-ай пешай пілігрымкі Ліда – Будслаў сустрэліся, каб падсумаваць пройдзены шлях. • Намеснік міністра замежных спраў Польшчы Марцін Пшыдач у рамках афіцыйнага візіту ў Беларусь наведаў кс. 6-па Аляксандра Кашкевіча. • На пачатку ўборачнай кампаніі ў Ваўкавыскім раёне каталіцкі і праваслаўны святары блаславілі камбайны.

*Агляд навін падрыхтаваны на падставе інтэрнэт-старонкі* ***grodnensis.by.***

## У малітве ўспамінаем памерлых душпастыраў:

**31 ліпеня 1942 г.** – кс. Юзаф Кучынскі, *проб. Уселюб;*
**31 ліпеня 1942 г.** – кс. Міхал Далецкі, *проб. Навагрудак;*
**2 жніўня 1989 г.** – кс. Рышард Вербель, *проб. Рось;*
**9 жніўня 2002 г.** – кс. канонік Баляслаў Завістоўскі, *проб. Селіванаўцы;*
**11 жніўня 2015 г.** – кс. прэлат Міхал Сапата, *ген. вік.;*
**14 жніўня 1996 г.** – кс. прэлат Баляслаў Гаўрыхоўскі, *проб. Гожа;*
**17 жніўня 1978 г.** – кс. Станіслаў Хадыка, *проб. Гервяты;*
**17 жніўня 1978 г.** – кс. Чэслаў Штэйн, *проб. Радунь;*
**28 жніўня 1982 г.** – кс. Ян Балтралік, *проб. Лабна;*
**30 жніўня 1973 г.** – кс. прэлат Юзаф Інгелевіч, *ген. вік., проб. Астравец;*
**30 жніўня 1991 г.** – кс. інфулат Міхал Арановіч, *ген. вік., проб. Гродна;*
**3 верасня 1987 г.** – кс. Апалінарый Зубелевіч, *проб. Канвелішкі;*
**4 верасня 1941 г.** – кс. Альфонс Гродзіс, *проб. Першамайск;*
**4 верасня 1956 г.** – кс. Вацлаў Драб, *проб. Струбніца;*
**5 верасня 1939 г.** – кс. Баляслаў Корнь, *проб. Мікелеўшчына;*
**9 верасня 1959 г.** – кс. Чэслаў Дабулевіч, *проб. Нача;*
**12 верасня 1943 г.** – кс. Раман Місевіч, *проб. Трабы;*
**13 верасня 2004 г.** – кс. прэлат Ян Граеўскі, *праф. Гродзенскай ВДС.*

АНОНСЫ

## ПЕШАЯ ПІЛІГРЫМКА ГРОДНА – РОСЬ

**Паломніцтва ў санктуарый Пана Езуса Журботнага адбудзецца 2–4 жніўня пад дэвізам "Сям'я: дар і абавязак, надзея чалавецтва".**

Вернікі па традыцыі вырушаць з касцёла Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі (Гродна-Паўднёвы). Св. Імша на распачацце будзе адпраўлена ў 7.00.

*Заяўкі на ўдзел у пілігрымцы прымаюцца штодзённа ў касцёле Гродна-Паўднёвы або па тэлефоне: (8 029) 784-05-72 – кс. Юрый Марціновіч.*

*Арганізацыйная сустрэча адбудзецца 31 ліпеня ў 20.00 у касцёле, адкуль стартуе паломніцтва.*

## УРАЧЫСТАСЦІ МАЦІ БОЖАЙ ВАЛАДАРКІ АЗЁР

**Фэст у Браславе (Віцебская дыяцэзія) адбудзецца пад дэвізам "Марыя – Маці і Валадарка шчаслівага сужэнства".**

**Праграма:**

***16 жніўня, пятніца***
18.00 – св. Імша для пілігрымаў з удзяленнем сакраманту канфірмацыі;
19.30 – канцэрт арганнай музыкі;
20.30 – адарацыйнае набажэнства з канферэнцыяй, моладзевы канцэрт;
22.30 – Акафіст да святой Багародзіцы (правядуць каталікі ўсходняга абраду);
23.30 – ружанцовая малітва, працэсія са свечкамі.

***17 жніўня, субота***
00.00 – св. Імша перад абразом Маці Божай Валадаркі Азёр;
01.00 – прэзентацыя фільма пра Віцебскую дыяцэзію;
02.00 – набажэнства Крыжовага шляху;
03.00 – адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту (набажэнства да Божай міласэрнасці);
07.00 – Гадзінкі аб Беззаганным Зачацці НПМ;
08.00 – св. Імша перад абразом Маці Божай (цэлебруюць святары-юбіляры);
09.00 – ружанцовая малітва;
11.00 – галоўная св. Імша на палявым алтары.

***Сёлетнія ўрачыстасці будуць праходзіць у 10-ую гадавіну каранацыі абраза Найсвяцейшай Панны Марыі Браслаўскай папскімі каронамі і ў 20-ую гадавіну заснавання Віцебскай дыяцэзіі.***

## ПАРАФІЯ Ў ВАЎКАВЫСКУ ЗАПРАШАЕ Ў ПІЛІГРЫМКУ Ў МЕДЖУГОР'Е

**Паломніцтва да месца асаблівага ўшанавання Маці Божай адбудзецца з 19 па 25 жніўня.**

Па дарозе пілігрымы заедуць у Будапешт – сталіцу Венгрыі, горад моцнай каталіцкай традыцыі з прыгожымі старадаўнімі святынямі. Акрамя Меджугор'я ўдзельнікі пілігрымкі наведаюць сярэднявечныя гарады Мостар і Дуброўнік (Боснія і Герцагавіна), а таксама антычны Спліт (Харватыя).

*Падрабязная інфармацыя і запіс па тэлефоне: (8 029) 313-65-64 – кс. Алег Дуль, пробашч парафіі св. Станіслава Косткі ў Ваўкавыску.*

## ПІЛІГРЫМКА ЛУРД – ТУРЫН

**Аўтобуснае паломніцтва працягнецца 10 дзён. Выезд запланаваны на 4 кастрычніка.**

Пілігрымку арганізуе парафія ў Ваўкавыску. Яе праграма ўключае наведванне шматлікіх гарадоў Еўропы і святынь, між іншым, лурдскага санктуарыя і катэдры Нотр-Дам-дэ-Пары ў Францыі, катэдры ў Італіі, дзе захоўваецца Турынская плашчаніца, а таксама месцаў, звязаных з жыццём св. Бернадэты і св. Яна Марыі Віянэя.

*Падрабязная інфармацыя і запіс па тэлефоне: (8 029) 313-65-64 – кс. Алег Дуль, пробашч парафіі св. Станіслава Косткі ў Ваўкавыску.*

## Каляндар падзей

***2 жніўня***
*Успамін Маці Божай Анёльскай.*

***3–4 жніўня***
*Урачыстасці ў санктуарыі Пана Езуса Журботнага ў Росі.*

***5 жніўня***
*Успамін Маці Божай Кангрэгацкай (Студэнцкай).*

***6 жніўня***
*Свята Перамянення Пана.*

***9 жніўня***
*Свята св. Тэрэзы Бенедыкты ад Крыжа, заступніцы Еўропы.*

***14 жніўня***
*Свята св. Максімільяна Марыі Кольбэ, заступніка Гродзенскай дыяцэзіі. Дзень малітоўнай памяці пра загінулых за веру ў лагерах і турмах.*

***15 жніўня***
*Урачыстасць Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі. Асвячэнне пладоў і кветак.*

***24 жніўня***
*Свята св. апостала Барталамея.*

***1 верасня***
*80-ая гадавіна выбуху ІІ Сусветнай вайны. Сусветны дзень малітвы аб ахове стварэння.*

## Ружанцовыя інтэнцыі

***Жнівень***
*Аб новых святарскіх, манаскіх і місійных пакліканнях з тэрыторыі нашай дыяцэзіі. Аб шчодрым духоўным плёне Дыяцэзіяльнага сінода.*

***Верасень***
*Аб развіцці апостальскіх спраў і малітоўных груп у нашай дыяцэзіі. Аб шчодрым духоўным плёне Дыяцэзіяльнага сінода.*

## Праграмы каталіцкай рэдакцыі

***"Голас Евангелля"***
*Разважанні над Божым словам. Выходзіць на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё кожную нядзелю ў 8.00 у Гродне на 96,9 FM, у Свіслачы на 100.8 FM.*

***Навіны з Ватыкана па-беларуску***
*Радыёвяшчанне з Апостальскай Сталіцы. Штодзённа ў 22.10 на 98,1 FM – у Гродне, Ваўкавыску, Шчучыне, Лідзе, Мастах і побач з гэтымі гарадамі; на 99,2 FM – у Брэсце і побач з ім. Кожную нядзелю ў 8.55 на хвалях Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё і на Канале "Культура" Беларускага радыё.*

***Інтэрнэт-партал Гродзенскай дыяцэзіі grodnensis.by***
*Асвятленне падзей з жыцця Касцёла на Гродзеншчыне. Даступны фота- і відэаматэрыялы.*

# Ранка на душы



*Саша і Коля жывуць на адной лесвічнай пляцоўцы дзевяціпавярховага дома. Хлопцы ходзяць у адзін клас, а пасля заняткаў заўсёды разам гуляюць у двары.*

*Аднойчы Саша ўбачыў у краме прыгожую машынку на пульце кіравання. Яна вельмі спадабалася хлопцу, таму папрасіў у мамы купіць. Праз некалькі дзён ён ехаў на веласіпедзе дадому, калі насустрач выйшаў радасны Коля, які трымаў у руках такую ж машынку.*

*– Адкуль яна ў цябе? – запытаўся здзіўлены Саша.*

*– Гэта твая мама мне падарыла, – адказаў Коля. – Давай гуляцца разам!*

*Саша спыніўся і слова не мога вымавіць. Цацку, якую ён так прасіў купіць яму, мама падарыла Колю.*

*– Гуляй сам са сваёй машынкай! – крыкнуў Саша.*

*Чырвоны ад злосці, усхваляваны, ён адправіўся дадому, адчыніў дзверы кватэры і ўбачыў... што на падлозе стаіць такая ж машынка, як і ў Колі. Цяпер ён пачырванеў яшчэ больш, але ўжо ад сораму, бо зразумеў, што мама купіла дзве машынкі: яму і сябру.*

*Хлопчык пастаяў хвіліну моўчкі і кінуўся ў свой пакой, а там упаў на ложак і горка заплакаў.*

*– Сынок, што здарылася? – спалохана спыталася мама. – Ты не рады цаццы?*

*Аднак Саша не паспеў нічога адказаць, бо ў дзверы пазванілі. На парозе стаяў Коля з машынкай у руках. Дрыжачым ад слёз голасам ён сказаў:*

*– Цёця Лена, вось, аддайце гэтую машынку Сашы. Ён не хоча са мною гуляць.*

*– Колечка, што з вамі абодвума? – ласкава спыталася жанчына. – У Сашы такая ж машынка. Я купіла кожнаму па цаццы, каб вы маглі разам гуляць.*

*З пакоя, прыкульгваючы, выйшаў Саша.*

*– А што ў цябе з нагою, сынок? – занепакоілася мама.*

*– Я ўпаў з веласіпеда, – і ён паказаў на драпіну на назе, з якой сачылася кроў.*

*Саша раптам узрадаваўся, што сапраўды зваліўся і абадраў нагу. Цяпер ён мае апраўданне, чаму нагрубіў Колю і чаму плакаў, хоць сапраўды балела хлопцу ранка на душы.*

*– Дык вось, чаму ты без настрою... Нічога, драпіну мы зараз прамыем і апрацуем. Прыйдзецца трохі пацярпець, – паспачувала жанчына і накіравалася за неабходнымі аптэчнымі сродкамі.*

*– Коля, ты даруй мне, калі ласка, што нагрубіў, – апусціўшы галаву, сказаў Саша.*

*– Нічога, – адказаў той. – Я таксама не зразумеў адразу, чаму ты накрычаў на мяне. Але што ўзгадваць цяпер? Пойдзем на вуліцу!*

*Нагуляўшыся, хлопцы вярнуліся дадому. Ужо вечарам, седзячы на канапе, Саша сказаў бацькам:*

*– Татачка, матуля, у мяне да вас ёсць вялікая просьба.*

*– Якая ж? – спыталіся бацькі.*

*– У Колі ў верасні Дзень нараджэння, і я хацеў папрасіць, каб вы падарылі яму такі ж веласіпед, як у мяне. Толькі не восенню, а цяпер.*

*– Чаму цяпер? – здзівіўся тата.*

*– Бо тады мы б цэлае лета маглі разам катацца, – адказаў хлопец.*

*Бацькі паразважалі і вырашылі, што так і зробяць.*

*Наступным ранкам Саша паклікаў сябра да сябе.*

*– Колечка, ты будзеш згодны, калі падарунак на твой Дзень нараджэння – новы веласіпед – мы ўручым табе цяпер? – спыталася Сашына мама.*

*– Веласіпед?! – узрадаваўся хлопчык. – Вядома, што згодны!*

*– Ну, тады паехалі ў магазін! – скамандаваў Сашын тата.*

*Колькі ў Колі было радасці ад гэтай нечаканай пакупкі! А Саша цешыўся таму, што перакрэсліў у сваёй душы ўчарашнюю прыкрую падзею. Хлопец зразумеў, што сапраўднае сяброўства павінна быць шчырым і чыстым, як вада з крыніцы, без ценю злосці, падману і зайздрасці. Сябры павінны давяраць адзін аднаму, разумець і заўсёды прыходзіць на дапамогу.*

*Галіна Здановіч, г. Ваўкавыск*



## Ад шчырага сэрца

**Паважанаму Ксяндзу Віктару Ханько**

з нагоды Імянін складаем букет найлепшых пажаданняў: патрэбных ласкаў ад Усемагутнага, апекі Маці Божай і святога Заступніка, дароў Святога Духа, а таксама мудрасці, спагадлівасці і натхнення на кожны дзень жыцця. Няхай святарская паслуга прыносіць шчодры плён. Шчасці Божа!

*З павагай парафіяне з Мастоў*

**Паважанаму Ксяндзу Віктару Субелю і каханай Сястры Ганне**

з нагоды Імянін шчыра жадаем моцнага здароўя, бясконцых творчых сіл, штодзённай радасці ад плёну сваёй працы. Няхай Езус заўсёды будзе Вашым Сябрам, Святы Дух апраменьвае святлом, Маці Божая трымае пад сваёй апекай, а святыя Заступнікі нястомна будуць побач. Няхай агеньчык аптымізму ніколі не гасне ў сэрцы, а кожны дзень будзе асвечаны любоўю, міласэрнасцю і супакоем. Шчасця, веры і надзеі!

*З малітвай вернікі з касцёла Нараджэння НПМ у Трабах*

**Паважанаму Айцу Аляксандру Махначу**

з нагоды надыходзячага Дня нараджэння жадаем моцнага здароўя, поспехаў у душпастырскай працы, радасці і стойкасці на кожны дзень. Няхай Бог адорвае Вас неабходнымі ласкамі, Найсвяцейшая Маці ахінае сваёй апекай, а Святы Дух асвячае дарогу і дорыць супакой на ўсё жыццё.

*З павагай вернікі з парафіі Ліда-Індустрыяльны*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Генадзю Кухарэвічу**

з нагоды Дня нараджэння жадаем Божага бласлаўлення на кожны дзень жыцця, нястомнай дапамогі Маці Божай і падтрымкі святога Міхала Арханёла ва ўсім.

*Парафіяне з Ізабеліна*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Звяжынскаму**

з нагоды надыходзячага Дня нараджэння сардэчна жадаем моцнага здароўя і штодзённай радасці, каб дарога, якую Вы абралі, была шчаслівай і добрай, каб маглі шчыра служыць Богу і людзям. Няхай Вамі настомна апекуюцца Бог Айцец і Божы Сын, Святы Дух спасылае неабходныя дары, Маці Божая ахінае апекай і любоўю, а побач заўсёды будуць добразычлівыя людзі. Выражаем пашану і ўдзячнасць за працу ў нашай парафіі, мудрыя навучанні, якія дапамагаюць нам быць сапраўднымі хрысціянамі, а таксама за тое, што набліжаеце нас да Бога. Просім Усемагутнага аб патрэбных ласках для Вас.

*З малітвай і павагай вернікі з касцёла св. Юрыя ў Варнянах і капліцы ў Вароне*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Віктару Захарэўскаму**

з нагоды Імянін складаем букет найлепшых пажаданняў: Божага бласлаўлення, шчодрых дароў Святога Духа на кожны дзень, нястомнай апекі Найсвяцейшай Маці і святога Заступніка, а таксама добразычлівых людзей побач. Няхай здароўе спрыяе на працягу доўгіх гадоў, а радасць, любоў і шчасце будуць найлепшымі сябрамі. Дзякуем Вам за клопат аб нашай святыні, адданую працу і малітву.

*Удзячныя вернікі з парафіі Раготна*

**Паважанаму Ксяндзу Дзянісу Шмыгіну**

з нагоды надыходзячага Дня нараджэння жадаем добрага здароўя, душэўнага супакою, доўгіх гадоў жыцця. Няхай кожны Ваш дзень будзе асветлены прамянямі Божай міласэрнасці, а Найсвяцейшая Панна Марыя атуляе сваёй любоўю. Дзякуем за шчырую малітву і адданую працу ў нашай парафіі.

*Удзячныя вернікі з касцёла Звеставання НПМ у Міжэрычах*

**Паважанаму Ксяндзу Каноніку Тадэвушу Качану**

з нагоды Дня нараджэння ад шчырага сэрца жадаем моцнага здароўя, шчодрых дароў Святога Духа, сіл, стойкасці, апекі Маці Божай на доўгія гады. Няхай кожны дзень праходзіць у радасці і спакоі, а побач будуць толькі зычлівыя людзі.

*Парафіяне з вёсак Навіянка і Пашэлі*

***У сувязі з водпускам супрацоўнікаў рэдакцыі наступны нумар газеты "Слова Жыцця" выйдзе 15 верасня.***

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні.**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** Галоўны рэдактар **кс. Юрый Марціновіч;** Заснавальнік: **Гродзенская рыма-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання **1997**; рэгістр. **№1085**; Выдавец: **курыя Гродзенскай дыяцэзіі.**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** Юрый Лавыш, Алена Гальчэня; тэл. **(80152) 75-64-38; (8029) 571-30-77** (мтс); e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com; http://www.slowo.grodnensis.by.**
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 от 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 3331; тыраж 5045; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты; Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная